Кошт паштовай перасылкі аплачаны агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 19. Вільня, Пятніца, 11-га красавіка 1924 г. Год I.

## Проці трактату аб меншасьцях.

У кракаўскім журнале „Przegląd Współczesny“ (за люты 1924 г.) надрукована вельмі цікавая стацьця пад загалоўкам: „*Польская“ сэсія Рады Лігі Народаў*. Аўтар апісывае свае ўражаньні з гэтае сэсіі, адбытай у канцы сьнежня мінулага году, называючы яе „польскай“ затым, што на ёй былі разгледжаны ажно шэсьць польскіх спраў, і ўсе гэтыя справы Польшча *прайграла*.

Шукаючы прычын польскіх няўдач, аўтар сказанай стацьці за галоўную і асноўную прычыну іх лічыць „*поўны ўпадак палітычнага ўплыву Польшчы на заграннічным форуме, як вынік абмылак нашае замежнае палітыкі, а перадусім фатальнага ўнутранага палажэньня польскае дзяржавы*“.

Бо Польшча, як кажа далей аўтар, гэта—„дзяржава, у якой на падставе фатальнага выбарнага закону маладым сацыяльным арганізмам кіруе колькі сот паслоў з вельмі нізкім культурным роўнем; дзяржава, у якой правіца і лявіца напружаюць усе свае сілы, каб перамагчы ў вархольскай і шалёнай партыйнай барацьбе, ведзенай per fas et nefas, бяз ніякае ўвагі на карысьць краю; дзяржава, у якой габінэты зьмяняюцца праз кожныя колькі месяцаў, а перастраіваюцца праз кожныя колькі тыдняў; дзяржава, у якой, згодна з мэксыканскімі ўзорамі, новыя ўрады лічаць сваім абавязкам ня толькі зьмяняць усю сыстэму ўнутранага ўпраўленьня, але часта і замежныя забавязаньні папярэдніх урадаў; дзяржава, якая ня плаціць заграннічных даўгоў, *не выпаўняе сваіх забавязаньняў* і стаецца слаўнай сваей элемэнтарнай несаліднасьцяй....“

Не прадаўжаем далейшых „камплімэнтаў“ аўтара стацьці па адрасу польскіх фінансаў, бо тыя—прынамся ў гэты мамэнт — крыху паправіліся. Затое мы падчыркнулі закід аб невыпаўненьні Польшчай яе забавязаньняў, бо ён абыймае якраз тое, што датычыцца палажэньня і нашага народу пад польскаю ўладаю: *Польшча ў адносінах да беларусаў не выпаўняе ніводнага пункту надпісанага ею трактату аб правох нацыянальных меншасьцяў*.

Здаецца, што гэта даўно ўжо перастала быць сакрэтам для заграніцы і для Лігі Народаў. Пратэсты паслоў меншасьцяў, а ў тым ліку і беларусаў, высказываныя з соймавае трыбуны, разыходзяцца на ўвесь сьвет.... А кожнае такое выступленьне, кожная жальба на ўціск і крыўды балюча б'ець па павазе Польшчы ў вачох замежных дзяржаў. Аднак, найбольш балючым ударам для дзяржаўнае павагі Польшчы будзе той удар, які зьбіраюцца зрабіць ёй *самі палякі*: мы маем на думцы польскі *праект зусім адмовіцца ад трактату аб правох нацыянальных меншасьцяў*, які Польшча падпісала адначасна з вэрсальскім міравым трактатам.

Калі-б правы нацыянальных меншасьцяў *запраўды* шанаваліся ў Польшчы так, як гэта напісана ў польскай канстытуцыі, калі-б Польшча *запраўды* справядліва здаваляла патрэбы сваіх грамадзян беларускае, украінскае, літоўскае, жыдоўскае і нямецкае нацыянальнасьці, дык адмова ад міжнароднага трактату была-бы зусім зразумелая: у адносінах да *дзяржавы, у якой пануе воля і справядлівасьць для ўсіх нацыянальнасьцяў, міжнародныя забавязаньні непатрэбны*, — тым больш, што яны паніжаюць павагу дзяржавы, якую другія дзяржавы *прымусілі* падпісаць гэтыя забавязаньні. І калі ў сваім часе ў Лізе Нацыяў узьнялася гутарка аб тым, што Літва такога забавязаньня не падпісала, дык прадстаўнік Літвы адказаў, што літоўскі ўрад лічыць гэта лішнім, бо дамаганьні трактату аб правох меншасьцяў Літва выпаўняе самахоць, бяз ніякага прымусу звонку.

На вялікі жаль (на жаль перш за ўсё для нас!), *Польшча гэткае заявы зрабіць ня можа*, дый рабіць ня зьбіраецца. У эндэцкай часопісі „Gazeta Warszawska“ надрукована гутарка аб гэтым супрацоўніка яе з маршалкам Сэнату, Тромпчыньскім, які заявіў, што праектаванае *адрачэньне Польшчы ад яе подпісу на трактаце аб правох нацыянальных меншасьцяў* ён лічыць, з увагі на сучаснае палажэньне Польшчы і *з увагі на адносіны Лігі Нацыяў да спраў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы,—карысным для інтарэсаў дзяржавы* *).

Можна дваяка разумець гэную „карыснасьць“ адрачэньня ад трактату, аб якой гаворыць п. Тромпчыньскі: для заграннічнае палітыкі Польшчы і для ўнутранае. Пан маршалак Сэнату, як відаць з яго далейшых слоў, мае на думцы апошнюю: ён заявіў, што не спадзяецца, каб адмова ад міжнародных забавязаньняў мела для Польшчы нейкія паважнейшыя вынікі на міжнародным грунце. Значыць, „карысьць“ прадбачыцца для ўнутранае палітыкі. У чым-жа яна можа выявіцца?

Палітыка ваяўнічага польскага нацыяналізму адкрыта імкнецца да таго, каб усіх грамадзян Польшчы няпольскае нацыянальнасьці гвалтам перарабіць на палякоў. Гэтаму якраз і перашкаджае трактат аб меншасьцях—*прынамся на паперы.* І адрачэньне ад трактату магло-бы хіба толькі аканчальна разьвязаць рукі тым, хто карысьць польскае дзяржавы бачыць у барацьбе з „інародцамі“. Толькі-ж *на практыцы* мы зусім ня бачылі, каб трактат гэны каго-колечы зьвязываў, і аб карыснасьці разарваньня яго ў унутраным жыцьці Польшчы прыходзіцца вельмі сумлявацца.

Затое, ня гледзячы на оптымізм пана маршалка Сэнату, мы ні на адну мінуту не сумляваемся, што ў заграннічнай палітыцы Польшчы праектаваны крок меў-бы *катастрафальныя вынікі.* Польшча апірае ўвесь свой дзяржаўны быт выключна на вэрсальскім міравым трактаце, частку якога прадстаўляе трактат аб правох меншасьцяў. *Гэты трактат вялікія дзяржавы, бязумоўна, прыймалі пад увагу, калі зацьвярджалі усходнія граніцы Польшчы, аддаючы ёй Беларускія і Украінскія землі.* І калі гэту цэгліну Польшча самахоць выкіне з фундамэнту, на якім дзержыцца яе дзяржаўная будоўля, дык што станецца з самай будоўляй?!....

„Przegląd Współczesny“ піша: „у Лізе Нацыяў, а бадай і наагул у міжнароднай палітыцы, мы ўпалі ніжэй за Літву“. Калі *ўжо цяпер* Польшча стаіць ніжэй за Літву, каторая ў дзесяць разоў менш за яе, дык у якім палажэньні яна апыніцца, самахоць *падрубаўшы сук, на якім сядзіць*?!....

*) Цытуем паводле віленскіх польскіх газэт („Slowo“).

## З Польскага Сойму.

На апошнім паседжаньні Сойму пасол PPS Цупял матываваў сьпешнасьць прапазіцыі ў справе гвалтаў паліцыі ў павеце Гэдзіньскім. Зьдзекі над арыштаванымі—агульнае зьявішча. Цяпер, у зьвязку з забастоўкай, паліцыя абнаглела зусім. У апошняй разьне зранена 37 работнікаў. Адказываючы на інтэрпэляцыю, новы міністар унутр. спраў п. Гюбнэр заявіў, што ім колькі дзён таму ўжо выданы загад да ўсіх аддзелаў дзяржаўнай паліцыі, каб у кожным выпадку, *калі будзе сьцьверджана біцьцё*, віноўнага неадкладна выганяць са службы, *перадаючы справу пракурору*... Міністар „лічыць, што гэты яго загад раз назаўсёды ўжо звольніць яго ад падобных інтэрпэляцыяў“...

Цікава толькі даведацца, *хто-ж* гэта мае, паводле думкі п. міністра, „сьцьвярджаць выпадак біцьця“ і „перадаваць справу пракурору“..—Само начальства віноўнага ў біцьці паліцыянта?... — Тыя самыя „вышэйшыя прадстаўнікі паліцыі“, што, як сьцьверджана ў Сойме, самі адкрыта даводзяць, што дазнаньня рабіць і атрымаць паказаньня ня можна бяз біцьця і катаваньня?.. Дык нічога і ніколі „сьцьверджана“ ня будзе... Кожны міністар унутр. спраў заўсёды, як новая мятла, пачынае з гэткіх прамоў. А пасьля ўсё йдзе па старому...

Сьпешнасьць адкінута 113 галасамі проці 112.

Пасьля пас. вызваленец Вэндзягольскі бараніў сьпешнасьць запросу аб надужыцьцях паліцыі у нашых Дунілавічах. Зьдзекі паліцыі адносна да паслоў лявіцы перайшлі ўжо ўсялякую меру... Паліцыянты і камэнданты ня маюць да іх ніякай пашаны, трактуючы іх таксама, як іх трактуе правая прэса на Крэсах, якая называе іх „бандытамі“, „бальшавікамі“ і т. п.

Сьпешнасьць ізноў адкінута.

А вось, калі пас. Скворонэк унёс інтэрпэляцыю ў справе арыштаваньня *палякоў у нямецкім Шлёнску*, дык сьпешнасьць была прынята...

Дык значыць, — калі ў Польшчы свая паліцыя б'е, дык ратаваць бітага ня сьпешна, бо-ж найчасьцей яна б'е і катуе беларуса, украінца, ці польскага работніка. Сьпешна толькі ратаваць паляка, калі яго б'е *нямецкая паліцыя*. Бо гэта запраўды баліць, бо толькі гэтага вымагае дзяржаўны і нацыянальны гонар большасьці польскага Сойму...

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

*паслоў Беларускага Клюбу да Пана Міністра Справядлівасьці і Пана Міністра Унутраных спраў у справе арыштаў у Лідзкім і Слонімскім паветах, зьдзекаў паліцыі над арыштаванымі і трыманьня арыштаваных у вастрогах у працягу 20 месяцаў бяз уручэньня ім акту абвінавачаньня.*

У 1922 годзе дзяржаўная паліцыя ўварвалася да хатаў сялян-земляробаў і арыштавала: Дамяніка Мішкініса, Баляслава Мішкініса, Дамяніка Віцбеля, Аляксандра Сенкевіча, Леанарда Казюкевіча, Антона Вэнцюса, Леанарда Піліпка, Міхала Маліса, Флёр'яна Туроніса і Ігната Бэрнатовіча з вёсак Міхальгуны, Грабашы, Лініца, Павасуне, Кракшлі, Крукль, Подэнбе і Даліна, Канеўскай гм., Лідзкага пав. Па заарыштаваньні ўсе былі зьбіты дзікім спосабам і катаваны. Катаваньні адбываліся так: падвешвалі няшчасных за ногі і білі па пятках, бакох і інш. Далей арыштаваных аддалі да дыспазыцыі сьледчага судзьдзі Вінцука Комара, які ў працягу 20 месяцаў вядзе сьледзтва і ня можа давясьці яго да канца. Змучаныя і абураныя вязьні рабілі два разы галадоўку, адну 4-х дзённую, другую $6^1/_2$ дзённую, каб змусіць сьледчага аддаць іх пад суд. Пасьля кожнай галадоўкі судзьдзя Комар завяраў, што сьледзтва хутка закончыць, аднак гэта аказалася нязгодным з праўдай, бо арыштаваныя дасюль знаходзяцца пад сьледзтвам.

Так сама прадстаўляецца справа арышту беларускага вучыцеля Кастуся Сьцяпура з в. Гірычы, Пацаўскай гм., Слонімскага пав., які знаходзіцца ў Віленскім вастрозе.

Дзеля вышэйшага, ніжэйпадпісаныя пытаюцца паноў Міністраў:

1) Ці ведаюць яны аб гэтым?

2) Ці маюць замер талераваць зьдзекі і катаваньні паліцыі над арыштаванымі?

3) Ці лічаць справядлівымі сьледзтвы, што цягнуцца ўжо больш, як 20 месяцаў?

4) Ці маюць замер палажыць канец такому беззаконнаму трыманьню людзей у вастрогах, ня маючы судовых прыгавораў, як падставы да палажэньня кары?

